© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
9 жніўня 2001 г.
№ 32 (528)
Кошт 110 рублёў

## КГБ вярбуе журналістаў ПАГОНІ

**Супрацоўнікі гарадзенскага КГБ працягваюць праследжурналістаў ПАГОНІ. Цяпер артыкул «Інтэгрысты ў Гродна не прыедуць» (гл. ПАГОНЯ за 10 траўня бягучага году) і заява «Рады Камандзіраў Беларускай Нацыянальнай Самаабароны», што папярэднічала артыкулу, разглядаюцца ў сукупнасці з выбухам ля Расейскай амбасады, што адбыўся ў ноч на 31 траўня. Толькі так можна расцэньваць вынікі размовы журналіста ПАГОНІ Паўла Мажэйкі з Аляксеем Цярэнцьевым, оперупаўнаважаным аддзела КГБ па барацьбе з тэрарызмам.**

Паводле словаў Паўла, раніцай у аўторак, 7 жніўня, яму па рэдакцыйным тэлефоне патэлефанаваў узгаданы супрацоўнік КГБ і прапанаваў сустрэчу. Сустрэча, па словах «чэкіста», была ў інтарэсах журналіста і тычылася, па ягоным выразе, пэўнай інфармацыі. Як кажа Павал, ён папярэдзіў Цярэнцьева, што сустрэча можа адбыцца толькі ў тым выпадку, калі размова будзе весціся сапраўды ў журналісцкіх мэтах. Адказ быў дадзены станоўчы. Час быў прызначаны на 11.30, у скверыку ля танка.

Пасля некалькіх звычайных пытанняў Аляксей Цярэнцьеў, паводле словаў Паўла, пачаў цікавіцца, ці ведае ён пра існаванне «Рады Камандзіраў», ці атрымлівала ПАГОНЯ яшчэ якія-небудзь заявы альбо тэлефанаванні, ці магла, на думку журналіста, існаваць арганізацыя з падобнай назвай падчас вайны:

*- Атрымаўшы адмоўныя адказы,* - гаворыць Павал, - *Цярэнцьеў сказаў, каб я не прымаў ягоныя пытанні «ў штыкі», і намякнуў, што справа супраць ПАГОНІ, заведзеная пасля публікацыі артыкулу «Інтэгрысты ў Гродна не прыедуць» не закрытая. Дадаў, што хоць закрыццё газеты і не ўваходзіць у кампетэнцыю КГБ, аднак для гэтага існуюць адпаведныя органы...*

Журналіст катэгарычна заявіў, што працягваць размову ён будзе толькі пасля афіцыйнай позвы ў КГБ. Оперупаўнаважаны пачаў даводзіць журналісту, што ён не любіць афіцыйныя пратакольныя размовы, і вырашыў зрабіць «па-чалавечы», таму запрасіў журналіста на прыватную размову.

*- Пасля гэтых словаў Цярэнцьеў запытаў,*- кажа Павал, - *ці ёсць, на маю думку, у Гродне людзі ці арганізацыі, сябры якіх былі б здольныя кінуць гранату ў Расейскую амбасаду? Пры гэтым ён не патрабаваў адказу настойліва, а сказаў, што сёння гэтыя дадзеныя патрэбныя яму, а заўтра што-небудзь будзе патрэбнае мне. Я расцаніў гэта як спробу звычайнай вярбоўкі ці ўскоснага запалохвання і спыніў далейшую размову.*

Наколькі нам стала вядома, следчая група КГБ у Менску яшчэ напрыканцы мінулага тыдня назвала імя галоўнага падазронага па справе выбуху на тэрыторыі амбасады. І гэта, безумоўна, не маглі не ведаць рэгіянальныя супрацоўнікі КГБ. Таму гэтую «размову» з журналістам рэдакцыя расцэньвае толькі як чарговы «наезд» на ПАГОНЮ, спробу запалохаць журналістаў і паралізаваць працу рэдакцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

Аляксей Цярэнцьеў, оперупаўнаважаны аддзелу КГБ па барацьбе з тэрарызмам, сказаў, што калі артыкул пра ягоную «сустрэчу» з журналістам ПАГОНІ з'явіцца ў друку, ён палічыць гэта па меншай меры «непарадочным». Што ж, у кожнага сваё ўяўленне пра прыстойнасць. Бясспрэчна адно. У газеты няма гранатаў ды іншай зброі, як у тэрарыстаў. Няма ў нас і той зброі, якую выкарыстоўвае КГБ для запалохвання журналістаў. Мы маем толькі адзіную магчымасць змагацца з гэтым маразоцтвам, якое пануе сёння ў Беларусі - праўдзівая інфармацыя грамадзянаў нашай краіны. Што мы і робім.

**Рэдакцыя ПАГОНІ**

**P.S. Учора рэдактара ПАГОНІ Міколу Маркевіча выклікалі на «беседу» да намесніка пракурора вобласці Труцько. Прычына тая ж самая - травеньская публікацыя пра інтэгрыстаў. Пагрозы кагэбіста спраўджваюцца?**

## Зменена дата ўрачыстасцяў з нагоды дня нараджэння Ларысы Геніюш

**Зменена дата правядзення ўрачыстасцяў, прымеркаваных да 91-й гадавіны з дня нараджэння паэткі Ларысы Геніюш. Мерапрыемствы, паводле абноўленых звестак, пачнуцца ў Зэльве, на радзіме паэткі 11 жніўня, а не 12, як паведамлялася раней. Пачатак а 12-й гадзіне ў Свята-Траецкай царкве.**

Паводле звестак арганізатараў, свой удзел ва ўрачыстасцях ужо пацвердзілі літаратары Міхась Скобла, Юры Карэйва, Лявон Вашко, Сяржук Мінскевіч, мастацтвазнавец Антаніна Хатэнка, бард Андрэй Мельнікаў. Не выключана, што ў Зэльву прыедзе і гісторык Уладзімір Арлоў.

**П.М.**

## Новыя ўмовы аплаты за тэлефон

**З 1 жніўня 2001 года унітарнае прадпрыемства «Гроднааблтэлеком» увяло новы парадак аплаты за паслугі сувязі. Цяпер жыхары горада абавязаны аплочваць карыстанне тэлефоннай сувяззю да 25-га чысла кожнага месяца, а не да апошняга дня месяца, як было раней.**

*- Тэрмін аплаты паслугаў сувязі да 25-га чысла існаваў і раней,* - гаворыць інжынер разліковай групы УП «Гроднааблтэлекам» Людміла Перадня. *- Аднак кіраўніцтва гарадзенскага «Гроднааблтэлекама», ідучы насустрач сваім абанентам, тэрмін аплаты заўсёды працягвала на пяць-шэсць дзён. З 1 жніўня гэтага не будзе. Цяпер, калі абанент не аплаціць нашыя паслугі да 25-га чысла і будзе мець запазычанасць больш як 10 000 рублёў, тэлефон у яго будзе адключаны.*

Паводле словаў Людмілы Перадні, павелічэнне кошту тарыфаў за тэлефонныя паслугі ў жніўні не плануецца.

**Захар Штрэна**

## Пенсіянеры едуць у Літву

**150 пенсіянераў, жыхароў Ашмянскага, Астравецкага, Смаргонскага раёнаў ва ўзросце да 60 год, маюць магчымасць бясплатна наведаць Літоўскую Рэспубліку. Такую магчымасць старым прадаставіў Міжнародны Балтыйскі фонд, які аплочвае праезд, пражыванне і харчаванне.**

Падчас візіту ў Літву жыхароў беларускіх мястэчак чакаюць экскурсіі па каталіцкіх і праваслаўных святынях, наведванне культурных установаў суседняй краіны. Для жыхароў Астравеччыны паездка адбудзецца 13-14 жніўня, смаргонцы наведаюць Літву 20-21 жніўня, а жыхары Ашмяншчыны будуць уключаны ў любую з гэтых паездак.

**П.М.**

### НАДВОР'Е

**10,11 жніўня** - пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы;

**11 жніўня** - дзе-нідзе моцныя лівні, навальніцы, магчымы град. Вецер паўночна-заходні, **6-11** м/с, **11 жніўня** - месцамі парывы да **15-20** м/с. Тэмпература паветра: **10 жніўня** - удзень **+20...+25**, уначы **+11...+16**; **11 жніўня** - удзень **+20...+25**, уначы **+13...+18**.

## Гарачая лінія з Васілём Лявонавым!

**Паважаныя сябры! ПАГОНЯ працягвае серыю гарачых ліній з лідарамі палітычнага жыцця Беларусі. Мы мяркуем, што ў ходзе гэтай акцыі Вы зможаце задаць па тэлефоне пытанні, якія Вас цікавяць, найбольш вядомым і аўтарытэтным людзям нашай краіны. Іх імёны мы будзем вызначаць таксама і з улікам Вашых пажаданняў.**

Наступнай асобай, з якой сустрэнуцца чытачы ПАГОНІ, стане кіраўнік незарэгістраванага руху «За новую Беларусь»

**Васіль Лявонаў,**

які ласкава пагадзіўся наведаць рэдакцыю нашай газеты.



### Гарачая лінія з ім адбудзецца 10 жніўня

Для таго, каб з першых вуснаў пачуць адказы на пытанні, якія тычацца сённяшняга палітычнага становішча і выбарчай кампаніі, ТЭЛЕФАНУЙЦЕ
**10 жніўня з 12.00 да 14.00**
**на нумар тэлефона:**
- **72-29-96** (для гарадзенцаў)
- **0152-72-29-96** (для іншагародніх)




БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА
Новыя хвалі. Новы час. Нязьменная Свабода

Ад 6-га жніўня 2001 года Беларуская служба Радыё Свабода гучыць у эфіры ад 6-ай вечара да апоўначы

| Час | KHz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18:00 – 24:00 | 7295, 7190<br>11725, 11730<br>11865, 15480, 15565 | 41<br>25<br>19 |
| 06:00 – 08:00 | 6170<br>7295 | 49<br>41 |

Сталыя частоты на сярэдніх хвалях – 612 кілягерцаў

Беларусь, Менск, 220005 п/с 111
Чэхія, 11000 Прага, Вінаградска, 1
Інтэрнэт www.svaboda.org

## Паведамленне

**У панядзелак, 13 жніўня, а 17-й гадзіне ў памяшканні грамадскага аб'яднання «Ратуша» па адрасу: г.Гродна, вул. Будзённага, 48-а адбудзецца сустрэча з жонкамі зніклых у Беларусі палітыкаў, журналістаў, грамадскіх дзеячоў.**

З гарадзенцамі сустрэнуцца жонкі Юрыя Захаранкі, **Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага.**

**Ул. Інф.**

## Новая спакуса для модніцаў

**У мінулую сераду ў Гродне адкрылася фірмовая крама адкрытага акцыянернага таварыства «Элема» .**

Па адрасу Горкага,73, дзе раней была фірмовая крама «Дайнова», цяпер размясцілася крама жаночай вопраткі. Модніцам тут прапануюцца ўборы на любы густ з апошніх калекцыяў «Элемы» . Лёгкія сукенкі ды касцюмы тут каштуюць па 20-45 умоўных адзінак. Дэмісезонныя зімовыя паліто - ад 70 да 150 умоўных адзінак. Ёсць таксама галантэрэя, шляпкі, пальчаткі ды так далей.

Крама прапануе новую для гарадзенак паслугу: зрабіць заказ любой мадэлі з калекцыі, якой няма ў краме. За тыдзень працы новай гандлёвай кропкі ў журнале заказаў з'явілася каля трыццаці запісаў.

**Алена Сіневіч**

## Для пацярпелых ад паводкі

**3-га жніўня грамадская арганізацыя «Саюз палякаў на Беларусі» (СПБ) абвесціла аб пачатку збора грашовых сродкаў, якія будуць прызначаныя на дапамогу грамадзянам Польшчы, што днямі пацярпелі ад паводкі.**

Грошы будуць збірацца не толькі ў Гродне, дзе знаходзіцца галоўная сядзіба Саюза палякаў, але і ва ўсіх рэгіянальных аддзелах СПБ. Як паведамілі ў сядзібе СПБ, кожны грашовы ўзнос будзе задакументаваны, а сабраныя сродкі будуць пералічвацца на спецыяльны банкаўскі рахунак у Польшчы. Усе прозвішчы ахвярадаўцаў будуць змешчаныя ў «Глосе з-над Немна» - друкаваным органе СПБ.

Кіраўніцтва Саюза палякаў на Беларусі спадзяецца, што людзі актыўна адгукнуцца на абвешчаную акцыю, «Мноства людзей у выніку паводкі засталіся без даху над галавой і без сродкаў для існавання. Гэта святая справа - дапамагчы тым, хто пацярпеў, незалежна ад іх нацыянальнасці.»

**Павал Мажэйка**

## З Гродна ў Брэст - на таксі

**Брэсцкі таксапарк адкрыў новы маршрут - «Брэст - Гродна».**

Маршрутнае таксі будзе адпраўляцца з Брэста два разы ў суткі - у 5 гадзін 30 хвілін і 16 гадзін 30 хвілін. Адначасова будуць адпраўляцца таксі з Гродна ў Брэст. Кошт праезду - 7,5 тысячы рублёў. Для зручнасці машына будзе заязджаць па названых адрасах за кожным з пасажыраў, якія ўзялі білет на праезд.

Паводле інфармацыі таксапарка, першы рэйс, запланаваны на 6 жніўня, не адбыўся, таму што не было ніводнага пасажыра.

Разам з тым кіраўніцтва таксапарка спадзяецца, што прапанаваны маршрут зручны і будзе карыстацца поспехам. Справа ў тым, што цяпер у Гродна можна даехаць толькі цягніком, які адпраўляецца з Брэста позна ўвечары, а прыбывае ў Гродна вельмі рана. Не надта зручна курсуюць і аўтобусы.

**Валянціна Казловіч**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Жніво як перадвыбарчае шоу

**Колькі ўжо гаворана пра селектарныя нарады, якія праводзіць А.Лукашэнка! Але ніякіх заўвагаў ён не прымае. Вось і ў гэты аўторак А.Лукашэнка правёў селектарную нараду, прысвечаную арганізацыі жніва. Начальнікі вобласцяў дакладалі пра свае поспехі на калгасных палетках. А.Лукашэнка каментаваў іхнія справаздачы.**




Было затрачана шмат часу. Думаецца, што марна. Агульнадзяржаўныя селектарныя нарады наконт жніва ў нашай калгаснай краіне, мабыць, насамрэч патрэбныя. Бо сапраўднага рынку няма, і нехта павінен усё арганізаваць. Але чаму найвышэйшы чыноўнік дзяржавы? Такую нараду мог правесці прэм'ер-міністр ці нават міністр сельскай гаспадаркі. А тым часам А.Лукашэнка мог правесці перамовы аб інвестыцыях у сельскую гаспадарку з кіраўнікамі інвестыцыйных фондаў, банкірамі і міністрамі замежных краінаў.

Ды толькі хто ж з ім размаўляць будзе, калі ўнутраныя і знешнія інвестары ацэньваюць інвестыцыйныя ўмовы ў Беларусі як неспрыяльныя? Адсюль высновa: калі няма, чым заняцца, то А.Лукашэнка робіць тое, што яму найбліжэй: красуецца ў падкантрольных СМІ. Мабыць, седзячы некалі на падобных нарадах у камітэтах партыі, ён уяўляў, як бы ён сам раздаваў налева і направа каманды, прыструньваў падначаленых, паблажліва характарызаваў іхнія дасягненні...

Словам, уся гэтая паказальная мітусня ёсць не што іншае, як шоу. Асаблівасць сённяшняга «канцэрту» ў тым, што гэтае шоу перадвыбарчае. І аніякай сувязі паміж шоу і ўраджайнасцю не прагледаецца.

**Міхась Капялюш**

# Галасуем толькі 9 верасня!

**Паводле 38-га артыкула Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, грамадзяне маюць права свабодна выбіраць і самі быць абранымі ў дзяржаўныя органы падчас усеагульнага, роўнага, прамога і ўскоснага выбарчага права пры тайным галасаванні.**

Відавочна тое, што гэты артыкул ахоплівае шырокі спектр законных правоў грамадзянаў. У сувязі з гэтым я б хацеў звярнуць увагу чытачоў на 53-ці артыкул Выбарчага кодэксу (ВК) Рэспублікі Беларусь. Ён сцвярджае, што выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці прагаласаваць у дзень выбараў (у дадзеным выпадку 9 верасня), маюць права прагаласаваць не раней, чым за пяць дзён да выбараў ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за ягоным волевыяўленнем.

Такім чынам, кожны з нас мае магчымасць прагаласаваць у дзень выбараў, гэта значыць, 9 верасня. Калі ж вам прапануюць на прадпрыемстве ці ва ўстанове прагаласаваць датэрмінова, за кошт працоўнага часу, тады вы можаце пайсці ў гэты час дадому адпачываць. У адпаведнасці з 53-цім артыкулам ВК вы маеце права (а не абавязаныя) галасаваць датэрмінова толькі ў тым выпадку, калі вы не маеце магчымасці прагаласаваць у дзень выбараў.

Калі ж раптам у вас па гэтых пытаннях узнікнуць праблемы з кіраўніцтвам на працы, вам неабходна звярнуцца з заявай у Гарадзенскае рэгіянальнае аддзяленне Беларускага Хельсінскага камітэту на адрас: плошча С.Баторыя, д.8, пакой 201, тэл.44-61-43. Паводле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, артыкул 130 «перашкода шляхам гвалту, ашуканства, пагрозаў альбо іншым спосабам свабоднаму ажыццяўленню грамадзянамі Рэспублікі Беларусь права выбіраць і быць абранымі караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да пяці гадоў».

Заклікаю ўсіх суайчыннікаў зразумець неабходнасць галасавання ў дзень выбараў. Гэта дазволіць арганізаваць належнае назіранне, да мінімуму знізіць магчымасць фальсіфікацыі і зробіць выбары дэмакратычнымі, сумленнымі і свабоднымі.

Людзі! Прыкладзіце намаганні, каб ваш голас не прапаў дарэмна!

Галасуй у дзень выбараў!

**Аляксандр Чарней, жыхар Гродна**

# «У белых пальчатках уладу не адстойваюць»

**На мінулым тыдні А.Лукашэнка правёў нараду са сваёй «вертыкаллю». У парадку дня стаяла пытанне «пра палітычныя задачы на сучасным этапе». Што ж гэта за этап такі, які патрабуе вызначэння асобных палітычных задачаў? Адказ даў сам А.Лукашэнка: «Я не буду хаваць сваю пазіцыю». Паводле ягоных, як ён шматразова падкрэсліваў, шчырых словаў, - гэта прэзідэнцкія выбары. Як жа бачыць спадар Лукашэнка сітуацыю «на сучасным этапе»?**

Вельмі прымітыўна. Усіх сваіх апанентаў ён называе «нацыяналістычнай апазіцыяй». Выраз вельмі няўдалы. Бо ён сам, які называе сябе прэзідэнтам Беларусі, у такім выпадку, хто? Выходзіць, што альбо інтэрнацыяналіст, альбо касмапаліт, альбо (страшна падумаць!) зусім без роду, без племені.

Пасля А.Лукашэнка абвесціў, нібы нешта адкрыў, пра тое, што ў краіне ідзе інфармацыйная вайна. Аўтар гэтых радкоў пісаў пра бязлітасную інфармацыйную вайну яшчэ пяць гадоў таму. Пра тое, што былыя савецкія зампаліты арганізавалі індустрыю прапаганды ў мэтах ператварэння беларускага народа ў статак байструкоў-зомбі. Але Лукашэнка не пра тое. Яго абурае, што грамадства не праглынула замяталінскую атруту. Што ва няўрадавых СМІ паведамляецца праўда пра сутнасць ягонай улады.

Потым пайшоў шчыры «наезд» на «вертыкаль». А.Лукашэнка заявіў, што нейкія толькі яму вядомыя добразычлівцы радзяць яму разабрацца найперш са сваім атачэннем. Пад удар мусілі патрапіць Мясніковіч, Замяталін, Ярмошын, мэр сталіцы Паўлаў і Ціцянкоў. Як на наш погляд, то парада вельмі слушная. І названыя, і тысячы іншых «вертыкальных» крывасмокаў даўно абрыдлі беларускаму народу. Публічная расправа з імі саслужыла б Лукашэнку, несумненна, добрую службу.

Затым ён паказаў «вертыкалі», як захавацца ў няпростай палітычнай сітуацыі. А.Лукашэнка сцвердзіў, што паколькі «на генным узроўні» (ягоны язык не павярнуўся сказаць слова «псіхічна») ён здаровы, то не будзе арыштоўваць сваіх хаўруснікаў. У якасці прыкладу спаслаўся на ўнутранага вайскоўца Паўлючэнку, Навумава, Сівакова, Шэймана.

Такім чынам, А.Лукашэнка падвёў «вертыкаль» да высновы, што нічога іншага, як падтрымліваць яго, любімага, ёй не застаецца. «Я не толькі буду сябе бараніць, я буду бараніць свой народ і сваю дзяржаву да апошняй хвіліны свайго жыцця», - сказаў Лукашэнка. Неба, якія пекныя словы!

Яшчэ ён даў зразумець, што не здрадзіць сваім байцам. Прывёў прыклад, як плача Л.Ярмошына пасля атакаў апазіцыі. Спадарыню Лідзію ён, мабыць, будзе таксама бараніць «да апошняй хвіліны свайго жыцця». Увогуле выбара ў «вертыкалі» няма, бо «гэтыя прэзідэнцкія выбары я выйграю». «Пацукам з «вертыкалі» лепей загадзя саскочыць з карабля, бо потым літасці не будзе. Прыкладна так скончыў сваю прамову А.Лукашэнка. Апошнія ягоныя словы павінны ўвайсці ва ўсе падручнікі па гісторыі краіны. «І майце на ўвазе, - папярэдзіў А.Лукашэнка, - гісторыя сведчыць, што ў белых пальчатках уладу не бароняць».

Прымітыўна, вядома. Але як жа гэта мусяць разумець Шушкевіч, Грыб, Шарэцкі, Кебіч, Ціхіня, Пазьняк!..

**Сяргей Самасей**

# У Лідзе затрымалі за ўлёткі

**У ноч на 7 жніўня ў Лідзе супрацоўнікамі міліцыі за расклейванне ўлётак «Малады Фронт» былі затрыманы Яўген Роўба і Яўген Лапко. Як паведаміў ПАГОНІ Яўген Роўба, пры затрыманні міліцыянты ўжывалі сілу.**

Падчас затрымання дзяўчыне, якая зрабіла заўвагу, супрацоўнікі міліцыі парвалі сукенку і сапсавалі гадзіннік. Дзяўчына накіравала ў пракуратуру скаргу на дзеянні міліцыянтаў. У пастарунку хлопцаў пратрымалі каля гадзіны, на Яўгена Роўбу быў складзены пратакол. Затрыманыя маюць намер звярнуцца са скаргамі ў пракуратуру.

**П.М.**

# Домаш - другі, Ганчарык - пяты

**Гарадзенская абласная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падвяла вынікі збору подпісаў ініцыятыўнымі групамі прэтэндэнтаў.**

Усяго на Гарадзеншчыне працавалі 15 ініцыятыўных груп па збору подпісаў за вылучэнне кандыдатамі ў прэзідэнты. За Аляксандра Лукашэнку ў рэгіёне было здадзена 54 631 подпіс, з іх сапраўднымі прызнана 54 529, за Сямёна Домаша - 27 763 (27 117), за Сяргея Калякіна - 13 695 (12 250), за Сяргея Гайдукевіча - 16 149 (14 991), за Уладзіміра Ганчарыка - 7 989 (7 765), за Зянона Пазьняка - 5 145 (4 404), за Паўла Казлоўскага - 4 930 (4 525), за Канстанціна Канановіча - 709 (664), за Віктара Цярэшчанку - 965 (99), за Леаніда Калугіна - 2 325 (1 250), за Леаніда Сініцына - 6 262 (5 310), за Сяргея Скрабца - 3 158 (3 092), за Міхаіла Марыніча - 1 749 (888), за Аляксандра Ярашука - 2 162 (1 744), за Міхаіла Чыгіра - 1 894 (1 364).

# Сябры Маладога фронту затрыманыя за распаўсюджванне газеты

**Чатыры актывісты гарадзенскай арганізацыі «Маладога фронту» былі затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі ўвечары 3 жніўня падчас раздачы «Прадпрымальніцкай газеты».**

Вольга Іванова, Іван Шыленкоў і непаўнагадовы Ігар Трафімовіч былі дастаўленыя ў Ленінскі РАУС горада Гродна з Савецкай плошчы. Паводле слоў Вольгі Івановай, міліцыянеры, якія іх затрымоўвалі, не прадставіліся, а на просьбу патлумачыць прычыну затрымання сказалі, што «у райаддзеле разбяруцца». Як сцвярджае Вольга, у аддзяленні міліцыі ўжо знаходзіўся яшчэ адзін сябра «Маладога фронту», якога адпусцілі пасля іх прыезду.

У Ленінскім РАУС з «маладафронтаўцаў» узялі тлумачальныя запіскі і канфіскавалі 30 асобнікаў газеты, для, як патлумачылі, праверкі «ці не ўтрымлівае яна матэрыялы, якія зневажаюць гонар і годнасць перзідэнта». Пры гэтым, як паведаміла ПАГОНІ Вольга Іванова, міліцыянеры назвалі даволі «дзіўную» прычыну затрымання: «Яны сказалі, што ў райаддзел пачалі званіць людзі і скардзіцца, што газеты прымушаюць браць сілком». На думку затрыманых «маладафронтаўцаў», падобныя дзеянні міліцыі скіраваныя выключна на запалохванне актыўнай часткі моладзі напярэдадні выбараў.

Актывісты «Маладога фронту» маюць намер накіраваць у Ленінскі РАУС скаргу з патрабаваннем да супрацоўнікаў міліцыі вярнуць канфіскаваныя газеты і прынесці прабачэнне за незаконнае затрыманне.

**Павал Мажэйка**

# Канстытуцыйная перашкода для Лукашэнкі

**Перадвыбарчая кампанія падышла да этапу рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Пакуль ёсць толькі чатыры прэтэндэнты - У.Ганчарык, С.Гайдукевіч, С.Домаш, А.Лукашэнка. Калі з першымі трыма ўсё ў парадку, то ў дачыненні да чацвёртага, А.Лукашэнкі, існуюць пэўныя абставіны, у выніку якіх ён не можа быць зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты. А справа вось у чым.**

Лукашэнка быў абраны прэзідэнтам у 1994 годзе. Затым у лістападзе (1996 г.) на рэферэндуме ў Канстытуцыі было зафіксавана, што тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта лічыцца з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі (арт.144). Такім чынам, тэрмін паўнамоцтваў Аляксандра Рыгоравіча быў працягнуты на 2 гады, хоць асобнага пытання пра падаўжэнне тэрміну прэзідэнцтва на рэферэндуме не было. Праз пяць гадоў у 1999 годзе выбараў прэзідэнта не было, што пярэчыць 81-му артыкулу Канстытуцыі. Такім чынам, на 20 ліпеня 2001 года А.Лукашэнка займае пасаду прэзідэнта ўжо 7 гадоў.

Адпаведна Канстытуцыі, першы тэрмін прэзідэнцтва складае 5 гадоў (арт.81), а прэзідэнт можа займаць пасаду толькі два тэрміны па 5 гадоў (10 гадоў). Значыць, А.Лукашэнка можа быць абраны прэзідэнтам толькі на 3 гады, бо потым пачынаецца ўжо трэці тэрмін на гэтай пасадзе, што не прадугледжана Канстытуцыяй.

Цэнтрвыбаркам не мае права рэгістраваць А.Лукашэнку ў якасці прэтэндэнта ў прэзідэнты, бо гэта пярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гарант Канстытуцыі сам павінен выконваць яе патрабаванні.

**М.Садоўскі**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



**Да выбараў Прэзідэнта 32 дні**

# Гарадзенцаў запрашаюць у ланцуг

**У наступны чацвер, 16 жніўня ў 17 гадзінаў у раёне плошчы Савецкай адбудзецца акцыя «Ланцуг неабыякавых людзей». Мэта мерапрыемства - прыцягнуць увагу гарадзенцаў да праблемы зьнікнення беларускіх палітыкаў, бізнесоўцаў і журналістаў.**

Арганізатары акцыі, сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, стануць у ланцуг і будуць трымаць у руках партрэты зніклых Дзмітрыя Завадскага, Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага.

Збор - каля «Профбанку».

Ул.інф.

# Скажы, за каго галасуеш, - і я скажу, дзе ты працуеш

**На Гарадзенскім прадпрыемстве «Азот» створаныя даволі жорсткія ўмовы ўдзелу работнікаў у маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Начальнік кожнага цэха павінен прадставіць у адміністрацыю прадпрыемства спісы, на якім участку будзе галасаваць рабочы, калі і, самае галоўнае, за каго ён аддасць свой голас.**

Такая інфармацыя на нарадзе 31 ліпеня была даведзеная да кіраўніцтва цахоў Міхаілам Краўчанкам, намеснікам генеральнага дырэктара «Азота». Паводле ўражанняў удзельнікаў нарады, ініцыятыва складці спісы зыходзіць не ад кіраўніцтва прадпрыемства, а ад гарадскіх уладаў. Апроч спісаў, ад кіраўніцтва «Азота» патрабуецца забяспечыць максімальную яўку работнікаў прадпрыемства на выбары.

# Хочаш адпускныя? Запоўні анкету!

**У сярэдняй школе № 2 гарадскога пасёлка Радунь Воранаўскага раёна настаўнікі пры атрыманні адпускных грошай павінны адказаць на пытанне анкеты «За каго вы будзеце галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах?». Пра гэта паведаміў Іван Фясенка, мясцовы краязнаўца, настаўнік адной з воранаўскіх школ.**

Паводле яго слоў, анкета з прозвішчамі ўсіх настаўнікаў школы знаходзіцца ў дырэктара СШ № 2. І.Фясенка адзначыў, што ён валодае інфармацыяй аб распаўсюджванні падобных анкет не толькі ў мясцовых школах, але і на прадпрыемствах. Ён адзначыў: «Ідэя анкетавання, безумоўна, з'яўляецца ініцыятывай мясцовых уладаў. Настаўнікі баяцца адказваць так, як яны думаюць, таму пазначаюць толькі адно, вядомае ўсім, прозвішча».

Павал Мажэйка

# Моладзь ставіць Ганчарыку ультыматум

**8-га ліпеня 67 моладзевых арганізацыяў Беларусі перадалі Уладзіміру Ганчарыку заяву «Моладзь - за Беларусь», дзе акрэсліла пяць умоваў свайго ўдзелу ў выбарчай кампаніі адзінага кандыдата. Толькі калі Ганчарык пагодзіцца выканаць гэтыя патрабаванні, сябры моладзевых арганізацыяў гарантуюць яму ўсебаковую падтрымку.**

Сярод буйных агульнарэспубліканскіх моладзевых арганізацыяў заяву падпісалі Малады Фронт, Маладая Грамада ды Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў. Рух «Зубр» і Моладзь АГП адмовіліся паставіць свае подпісы пад заявай. Затое яе падтрымалі іхнія магілёўскія філіі. Ад Гарадзеншчыны «Моладзь - за Беларусь» падпісалі Малады Фронт, Маладое Адраджэнне, Асацыяцыя Маладых прадпрымальнікаў, Маладая Грамада, Альянс імя Вітаўта Вялікага.

Як паведаміў ПАГОНІ старшыня Гарадзенскага Маладога Фронту Вадзім Саранчукоў, Уладзімір Ганчарык уважліва прачытаў прапанаваныя моладздзю ўмовы. З насцярогай ён прыняў умову гарантаваць Сямёну Домашу ў выпадку сваёй перамогі на выбарах пасаду прэм'ерміністра. Ганчарык сказаў, што гэтае пытанне не ў кампетэнцыі моладзі і ўсё будзе вырашана ў прыватных перамовах з Домашам. Зрабіў заўвагу Уладзімір Ганчарык і наконт умовы вяртання нацыянальных сімвалаў. Ганчарык падкрэсліў, што яго падтрымліваюць 2 мільёны 600 тысяч чалавек, якія адмоўна ставяцца да гэтай сімволікі, таму ён плануе выпрацаваць у гэтай сувязі нейкае кампраміснае рашэнне. Уладзімір Ганчарык паабяцаў на працягу тыдня адказаць на заяву «Моладзь - за Беларусь». У тым выпадку, калі Уладзімір Ганчарык усё ж адмовіцца падпісаць патрабаванні, ініцыятары складання дамовы панясуць яе на подпіс да актывістаў найбуйнейшых моладзевых арганізацыяў Беларусі. Яны лічаць, што гэта прымусіць Ганчарыка падпісаць дамову.

### Заява «Моладзь - за Беларусь»

**Мы, прадстаўнікі моладзевых арганізацыяў, усьведамляючы адказнасьць за будучыню Беларусі, заяўляем аб сваёй падтрымцы адзінага кандыдата. Перамога можа быць дасягнута толькі пры кансалідацыі ўсяго грамадзтва вакол ягонае асобы.**

**Найбольш моцнай і гатовай да зьменаў часткай грамадзтва ёсьць моладзь. Безь яе актыўнага ўдзелу ў выбарах посьпех немагчымы. Дзеля арганізацыі эфектыўнае кампаніі сярод моладзі лічым неабходным падтрымку кандыдатам прынцыпаў, якія забясьпечаць рэалізацыю нашых асноўных каштоўнасьцяў:**

**1. Гарантаваньне рэальнай незалежнасьці нашае дзяржавы праз ажыцьцяўленьне самастойнае фінансавай, вонкавай і абароннай палітыкі. Вяртаньне нацыянальнае сымболікі (герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг) статусу дзяржаўнай. Прызнаньне беларускае мовы адзінай дзяржаўнай.**

**2. Пераразьмеркаваньне паўнамоцтваў паміж галінамі ўлады на карысьць заканадаўчай і судовай, а таксама паміж прэзыдэнтам і ўрадам на карысьць прэм'ер-міністра.**

**3. Неадкладныя парляманцкія выбары па зьмешанай сыстэме.**

**4. Вырашэньне асноўных праблемаў моладзі: рэформа сыстэмы адукацыі, адмена прымусовага размеркаваньня і абавязковае вайсковай службы, паляпшэньне сацыяльных умоваў і стварэньне магчымасьцяў самарэалізацыі.**

**5. Гарантаваньне лідару Рэгіянальнай Беларусі Сямёну Домашу пасады прэм'ер-міністра Беларусі.**

**Тысячы сяброў нашых арганізацыяў гатовыя ўсімі сіламі працаваць на перамогу адзінага кандыдата дзеля будучыні Беларусі. Мы заклікаем таксама кожнага маладога беларуса далучыцца да нашай ініцыятывы.**

**Лёс краіны ў нашых руках. Мы разам, і мы пераможам!**

**Моладзь - за Беларусь!**

# Які час - такі месія

**Прыйшоў час выказацца максімальна шчыра. Абрыдла стрымліваццa. Чакаць, пакуль «пяцёрка», ці хто там яшчэ, падбярэ годнага кандыдата на пасаду Прэзідэнта. Прэч лаяльнасць! На кану лёс краіны.**

Ніхто з «іх» асабіста мне ніколі не падабаўся. Ні Чыгір - цацка ў руках палітычных авантурыстаў - арганізатараў выбараў «прэзідэнта» ў 1999 годзе. Ні Казлоўскі - самаўлюбёны міністр абароны хітруна Кебіча. Ні Калякін - правадыр асляплёных камунізмам пенсіянераў. Ні Ганчарык - недзеяздольны старшыня бяссільнай структуры. Ні Домаш - няўдалы ваявода. Пра астатніх памаўчым. Сёння ўсе яны - палітычныя нулі, хаця і паводле розных прычынаў.

Чаму наспеў гэты момант шчырасці? Бо палітычная сітуацыя ў краіне дасягнула крайняй ступені абсурду і цынізму. Адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад апазіцыі вылучаны Уладзімір Ганчарык. Што гэта за апазіцыянер такі? Дзе ён быў, калі рэжым правёў лакаут менскіх метрапалітэнаўцаў? Калі спецатрады збівалі галадаючых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання? Калі разганялі Вярхоўны Савет 13-га склікання? Увогуле, што ён рабіў да 21-га ліпеня 2001 года?

Час наменклатуры, інтарэсы якой выяўляюць ганчарыкі, марынічы, казлоўскія, чыгіры, прайшоў незваротна. Сышоў на ніц пасля няўдалага імпічменту прэзідэнту А.Лукашэнку ў 1996 годзе. Тады мы ўсе цалкам падтрымвалі наменклатуру. Напрыклад, В.Ціхіню, старшыню Канстытуцыйнага суда, С.Шарэцкага, старшыню парламента, ды іншых. Былі нават гатовыя выйсці на плошчы і вуліцы сталіцы. Але яны публічна спраўдзілі цалюткую прафесійную непрыдатнасць, прадажнасць, слабасць волі, дзіцячу наіўнасць, пагадзіўшыся на заранёў паразны варыянт расейскага «міратворніцтва».

Пасля 96-га намеклатура «умерла». Рэжым яе «мае», як хоча. Адзінае яе реальнае спадзяванне - на тое, што сапраўдная апазіцыя яе абароніць. Як у выпадку з Лявонавым, Чыгіром, Старавойтавым і гэтак далей. І вось у гэтых умовах нам прапануюць адзіным кандыдатам на пасаду Прэзідэнта Беларусі наменклатурцчыка Ганчарыка! Ды ён сам павінны прытуліцца да «бота» апазіцыі і мовіць словамі паэта Максіма Багдановіча: «Ратуйце! Дзякуй!»

Карыкатурная фігура Ганчарыка падносіцца сёння нам у якасці збавіцеля беларускага народа ад жабрацтва, мафіі, беспрацоўя. За гэтую фігуру былога другога сакратара магілёўскага абкама партыі (мала нам яшчэ магілёўцаў?), павінны зараз агітаваць беларускія патрыёты, лібералы, камуністы (сапраўдныя), ды іншыя разнастайныя сацыялістычныя дэмакраты?!

Гэта - поўная ж..а. Тым не менш, цалкам усведамляю, што іншыя варыянты перамогі над Лукашэнкам амаль не пpaглядаюцца. Што зробіш - такі ўзровень нашай сам свядомасці. Як патлумачыць сам спадар Ганчарык неабходнасць галасаваць за ЯГО?

Ці збіраецца ён, увогуле, нешта нам тлумачыць?

Міхась Капялюш




РЭЙТЫНГ

# Галасуйце па тэлефоне!

**На старонках ПАГОНІ вы можаце галасаваць ужо сёння!**

Вы можаце аддаць свой голас кандыдату, за якога праглаcуеце на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Вызначце таксама аднаго кандыдата, за якога ні будзеце галасаваць ні ў якім выпадку.

Галасуйце па тэлефоне 72-37-14 з 10.00 да 18.00 штодзень, акрамя выхадных.

Шэры слупок - галасы «ЗА», белы слупок - «СУПРАЦЬ».



Сяргей Гайдукевіч — 1,2% / 13,4%



Уладзімір Ганчарык — 6,9% / 4,1%



Сямён Домаш — 44% / 3,8%



Аляксандр Лукашэнка — 7,4% / 66,6 %

Выкарыстаныя фота IREX/ProMedia

# Што агульнага паміж выбарамі ды гульнёй у напарстак?

**- арганізатары выглядаюць, як прыстойныя людзі;**

**- арганізатары абяцаюць, што ўсё будзе чэсна;**

**- арганізатары абяцаюць лёгкі выйгрыш;**

**- правілы вельмі простыя;**

**- удзел займае няшмат часу;**

**- да ўдзелу заклікаюць неназойліва;**

**- удзел лёгкі ды прыемны;**

**- тыя, хто не прымае ўдзелу, глядзяць на ўдзельнікаў, як на ідыётаў;**

**- удзел абсалютна добраахвотны, але права на ўдзел трэба пацвердзіць;**

**- абсталяванне даволі простае і абавязкова правяраецца на пустэчу;**

**- усё ідзе ўцёмную;**

**- напрыканцы абвяшчаецца пераможца;**

**- дзяржава стаіць убаку і робіць выгляд, што не мае нічога агульнага з арганізатарамі;**

**- мы не ведаем тых, хто рэальна стаіць за арганізатарамі;**

**- як ні гуляй, - усё роўна ў выніку прайграваеш;**

**- хапаць за рукі нячэснага арганізатара небяспечна для здароўя;**

**- напрыканцы ўсе разумеюць, што іх падманулі, але не ведаюць як;**

**- прайграўшы адзін раз, у наступны раз мы ідзем гуляць ізноў.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# «Адна ёсць толькі ў свеце Беларусь»

**У жніўні 2000 году ў зэльвенскай Траецкай царкве я разгаварыўся з паважнага веку зэльвенцам. Толькі што закончылася набажэнства, сьвятар з Гародні, айцец Аляксандар сказаў памінальнае слова па Ларысе Геніюш. На сьцяне з новаасьвечанай мэмарыяльнай дошкі паблісквау золатам геніюшаўскі радок: «На зямлі беларускай мае алтары». Дзядок, які добра помніў Ларысу Антонаўну, пачуваўся разгубленым: «Я ведаў, што яна пісьменьніца, але ня думаў, што такая: сьвятая». І ў гэтых звычайных словах адбілася ня толькі тое сумнае зьвішча, якое прынята выказваць дакладным афарызмам «няма прарокаў у сваёй Айчыне», але й канстатацыя таго, што сьвятыя зацьвярджаюцца ня толькі на сьвятарных сынодах.**

**Найпаўней творчасьць Л. Геніюш прэзэнтаваная ў «Выбраных творах», што выйшлі летась у залатой сэрыі «Беларускі кнігазбор». Пасьля розгаласу ў сродках масавай інфармацыі дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура» спахапілася й перавыдала «Белы сон» - так бы мовіць, «дзяржаўны варыянт» свабодалюбнай геніюшаўскай паэзіі, якая не выносіць цэнзурнага ўмяшальніцтва. Тым ня менш, кніга выйшла з папраўкамі й скаротамі, зробленымі яшчэ ў ідэалягічным аддзеле ЦК у 60-ых гадох, калі рыхтавалася першая кніга паэткі на Радзіме - «Невадам зь Нёмана».**

**Творчасьць Ларысы Геніюш нагадвае глыбокі калодзеж, адна цыбравіна якога наверсе, а дзесяць - схаваныя глыбока. Усё тое, што выдадзенае да гэтай пары ў Празе, Менску, Лёндане й Беластоку - толькі дзесятая частка напісанага паэткай на чужыне, на падканвойных этапах, у зэльвенскай хаце. Прыйдзе час, і «новы а мудры гісторык» літаратуры рупліва дасьледуе ўсе этапы ейнай творчасьці, расшукае невядомыя творы.**

**У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук імя Я. Коласа зьберагаюцца сотні папак геніюшаўскага архіву - цалік для дасьледнікаў. У Нацыянальным архіве ляжыць ці не адзіная ў сьвеце поўная падшыўка газэты «Раніца», са старонак якое выправілася ў свой арліны палёт Чайка - Ларыса, дачка Антонава з роду Міклашэвічаў. У падрыхтаваны мной «кнігазбораўскі» том увайшло нямала неапублікаваных раней твораў, але яшчэ больш іх засталося ў маім кампутары - у чаканьні новага, больш поўнага выданьня. Прапаную адмыслова для чытачоў ПАГОНІ 18 невядомых вершаў Ларысы Геніюш. Мяркую, і сама паэтка з радасьцю згадзілася б друкавацца ў газэце з такім дарагім яе сэрцу назовам.**

* * *

Пяро маё, цяжкое ад адчаю,
са мной, як вязень, закавана ў лёд.
Пяро маё, табе я даручаю
пісаць, кахаць і славіць мой народ.

Пяро маё, якога не зламалі,
маленькае, будзь прыкладам другім.
Зь цярпень, змагань, з гартаванае сталі,
далей пішы зямлі дастойны гімн.

Пяро маё, шыбуй вышэй аблокаў,
сьпяшы да абяздоленых людзей.
Сьпявай хвалу зямельцы яснавокай,
Айчыне працавітае маей.

Пяро маё, будзь па-геройску дужым,
бяз лжы і фальшу, боль умей стрываць.
Надзейнае, о будзь маім аружжам,
умей, як я, над прорвай устаяць.

Пяро маё, прад сільнымі ня гніся.
Душа у бедных гордая, свая.
Зямлі, народу, продкам пакланіся
і мужнасьці, як кланяюся я.
..................................
Пяро маё – мой шчыт і крыж магільны,
жыцьцё маё, хоць косьці будуць тлець,
пакінь мой сьлед ахвярны і нязмыльны –
як для Айчыны жыць і як цярпець!

Пяро маё – мой паж адзіны верны,
з усіх сяброў адзін надзейны друг.
Ты йшло са мною праз крыжы і церні –
удзельнік бою, сьведка маіх мук.

Пяро маё, пілуючае краты,
трывалае ў марозе і агне,
мой меч двусечны, скарб мой небагаты,
жыві, мой боль, жыві пасьля мяне.

* * *

Адна ёсць толькі ў сьвеце Беларусь,
адна ёсць толькі маці ў чалавека,
адно ў нас сэрца, што на часьці рвуць,
і Край адзін, для нашых сэрцаў – Мэкка!

Адзін ў нас чэсны, беларускі твар,
адно ў нас чалавечае сумленьне,
адна ёсьць праўда і адзін алтар,
народ адзін, ў якім мы – пакаленьне.

Адна ў нас мова, продак што данёс,
адна крыніца, із каторай выйшлі,
адна сям'я мы і адзін наш лёс –
ў палацах мы ці зноў на папялішчах.

Адна зямелька — там, дзе продкі сьпяць,
адна Пагоня, што нам сэрцы будзіць.
Адно памкненьне – людзям шчасьце даць.
Адно жыцьцё – другога ў нас ня будзе!

Вось вырасьце юнак зь цяжкіх нягод,
да вышыні даб'ецца ў сьвеце нейкай,
і скажуць людзі: пазнаем наш род,
то з нашай беларускае сямейкі!
......................................
Адно ў нас сэрца і адна сям'я,
ня дарам вораг цэліць ў гэта сэрца.
Харошая Крывіцкая зямля
у рукі злыдням лёгка не даецца!

Нам выстаяць адзін ля аднаго,
нам вытрываць, ад ранаў не упасьці,
не адлятаць усім з гнязда свайго,
калі народ зьняволены ў няшчасьці.

Што ж, выpадкі здараюцца, на жаль,
якім чужое больш засмакавала.
Такія б рэзалі нас, брацьцяў, без нажа,
ім крыўд зямлі і сьлёзаў нашых мала.

Такі нат сваю мову для гасьцей
з гарэлкаю падасьць у хаце ветла,
ўсё ж адвучае ад яе дзяцей –
нявыгадна, хай нос трымаюць зь ветрам.

Адказнасьць час на нашы плечы ўсклаў.
Турма пакуль за бой наш – нагарода.
І ўсё ж няма для нас вялікшых спраў,
чымсьці жыцьцё і лёс свайго народа!

Адзін ў нас чэсны беларускі твар,
адно ў нас чалавечае сумленьне.
Адна ёсьць праўда і адзін алтар,
адзін народ, і мы ў ім – пакаленьне!

* * *

Стома дня. Бляск вачэй маіх сумны,
адзіноты дурманячы боль.
Час мне зьдзейсьніць усё, што задумана,
пакуль ў кроне жыцьця майго ствол.

Стаяць дрэвы, бы здані белыя.
Паліць сонейка. Скрозь трава.
Чабаром густым зь ніў павеяла –
закружылася галава.

Ўсхвалявалася поле жытняе.
А бярозанька за сялом
да зямлі маёй старажытнае
нахіляецца, б'е чалом.

Буйным гольлем, кволымі лісьцямі
маю душу з родных палян
падхапілі, дрэвы, калісьці вы
і разгойдалі да змагань.

Што ж, паранілі, пакалечылі
у жыцьці душу мне ня раз.
Уздымаю яе, падлечваю,
дрэвы родныя, каля вас.

**МОЙ ДОМ**

Мой родны дом, мой зруб звычайны —
ў ім сіла бацькавай рукі.
Бярвеньняў, высечаных дбайна,
цяжар прылёг на вушакі.

Стаіць, як звон, прапах жывіцай,
на летнім сонейку прасох.
Між бэлькаў ветру не прабіцца –
ляжыць там туга шэры мох.

Мой дом – і сені, і сьвятліца,
да ўсіх прыветлівы, зь цяплом.
Тут можа кожны прыпыніцца,
хто ў нашу хату йдзе з дабром.

Хлеб пад абрусам хатні, сьвежы,
і мёд, што ў бабулі загусьцеў.
Ахвотна нож акрайцы рэжа
і мажа мёдам для гасьцей.

Мой дом – сьляды дзядоў на лаве,
дыван з-пад матчыных красён.
За абразамі пахнуць травы,
цьвітуць юргіні пад вакном.

Мой дом, мой двор, мая сяліба,
к суседу сьцежкі шчыры бег,
засеяная хлебам скіба
айчынных ніў ад веку ў век.

Зямельцы — мір, сям'і — апека,
чалу жанчынаў быць бяз хмар.
Мой родны Край, мой дом навекі,
і я удома – гаспадар!

**НАШ ШЛЯХ**

Наш шлях – як ноч, як крыж балесны.
Народ ў цярпеньні і журбе.
Наш шлях – як радасная песьня,
таму, што шлях наш да Цябе.

Праз тундру, скованую лёдам,
дзе вуснаў замірае ўздох,
наш шлях к Табе – як насалода,
як травень у Тваіх садох.

Празь белы сьнег і чорны вугаль,
паўночнай гнаныя пургой,
мы ўсе з-над Нёмана, з-над Буга
скрозь боль ідзем к Табе адной.

**У ВІЛЬНІ**

Ля застыглых сьцен Гедыміна
дух мне трывожыць, сьпыняе
мінуласьць старая ліцьвінная
продкаў маіх і Краю.

Замка ўладар, устань жа,
часу парві аковы.
Веру – ты нас прывітаеш
россыпам роднае мовы.

З гэтых зямель ты сільны,
з гэтых людзей – магутны.
Славу нашу скасілі
і памяць – хлусьнёй атрутнай.

Мову нашу стапталі,
мову, якую дбайна
у каралеўскія залі
ўнёс з нашых пушчаў
Ягайла.

Ноч цягнулася доўга.
Недруг ведаў замовы.
Нас абакралі з роду,
цяпер абкрадаюць
з мовы.

Замка твайго руіны.
Сьлед наш стары тут рэхам.
Імя народа гіне
ворагам на пацеху.

Мы — да цябе на параду,
продак, пачуй з магілы,
дай нам меч свой – за праўду,
у бoі адчайным – дай сілы!

* * *

На двары стыне позьняя восень.
Цені сноўдаюць каля дзьвярэй.
Колькі ж кропляў яшчэ засталося
на дне чары жыцьцёвай маей?

Ужо віхры свавольныя змоўклі.
Ўмерзлай сьцежкай ідзе лістапад.
А лёс цэдзіць і цэдзіць па кроплі
на садызьме настоены яд.

Толькі смага на вуснах заўсёды.
Жыць бы нам, як ўсе людзі жывуць.
І напіцца нэктару свабоды
ды на поўныя грудзі ўздыхнуць.

* * *

Край ў глыбокай, асеньняй трывозе.
Вецер блытае гольле дрэў.
Мо таму, што зіма на парозе,
небасхіл над зямлёй пасумнеў.

Вы ня клічце мяне ў сталіцу.
Мала ў сьвеце так страшных месц,
якіх цяжкі ўспамін баіцца –
так халодных, чужых, як Менск.

Мне ня трэба сяброў, забавы,
не хачу аб прызнаньні чуць.
Маю волю, а зь ёй і правa
горад гэты ў жыцьці абмінуць.

Я была там. Сустрэлі годна,
з парай шэрых, лютых сабак.
Я цярпела ў турме халоднай –
не памог ні адзін зямляк.

Значыць, іх не было на сьвеце,
значыць, сэрца ніхто ня меў.
Я ж калісьці хацела памерці,
каб свабодай наш Край квітнеў!

Мне сплывалі ракою сьлёзы,
і малітвы за вас уначы.
А у час, ад мучэньняў грозны,
мне ніхто не схацеў памагчы.

Менск – прыгожы, і Менск – сталіца,
і чужы там, і свой натоўп.
Для мяне Менск – мая цямніца
з адзіночкаю, быццам гроб...

Менск паэтаў, працоўных слава,
для усіх, хто ня наш – прыпын.
Для мяне Менск – гэта Цанава
і страшнейшы за ўсіх грузін...

* * *

Дзень сінялобы стукае ў акно
халодным пальцам, трэба прачынацца.
Снуюцца сны, як тое палатно,
што вечарамі доўга будзе ткацца.

Снуюцца думы зрэб'ем на краснох,
пратканыя чарнейшым успамінам.
Дзе вы былі, як на аленьні мох
мне сьлёзы падалі і расплаўлялі льдзіны?

Дзе вы былі? Той самы быў талант
і тая ж сьвятасьць Беларусі ў сэрцы.
Чыя заслуга, хто быў вінават,
што кінулі ў абдымкі белай сьмерці?



Так можна заўтра жменю песьняў ўзяць,
што вырасьлі з душы непакананай,
і на пасьмешышча, як душу маю, даць,
ці так, як рукі, — закаваць ў кайданы.

І будзе зноў маўчаць нямы народ,
як тыя сосны у падцятым лесе.
А вы, забыўшыся, паедзеце ўпярод
па лаўры й званьні новыя ў экспрэсе.

Ізноў праложыце мне цяжкі шлях
у бель начэй, у цемень дзён паўночных.
І як калісьці, з торбай на плячах,
пайду з сабакамі ў цяні штыкоў я моўчкі.

Я салаўём пяяць ужо не магу
і боль гаіць душы сваёй крыніцай.
Інакш навучылася ў пургу,
што выла ў ноч разьюшанай ваўчыцай.

Цяжкія хвоі на плячах цягнуць,
біць ў мерзлату кіркой да адурэньня
і пра дзіця гадамі не пачуць,
глядзець кругом на тысячы мучэньняў.

Не, не кранайце набалелых ран,
а то прыпомніцца бяздольны плач дзяцінны,
і з сэрца вырвецца нястрыманы вулкан
караючай і вогненнай лавінай!

**Падрыхтаваў Міхась Скобла**

(працяг у наступным нумары)

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# Хакей вяртаецца ў Гродна

**13 і 14 жніўня хакеісты гарадзенскага «Нёмана» правядуць першыя таварыскія гульні ў гэтым сезоне. На дзве гульні ў Гродна прыедзе наваполацкі «Палімір». Зусім нечакана ўзнік варыянт правядзення 10 жніўня ў нашым горадзе сустрэчы «Нёмана» з «Магілёвам». Аднак прыезд магілёўцаў яшчэ нявырашаны:**

Парадчэлі шэрагі хакеістаў, якія знаходзіліся ў «Нёмане» на праглядзе. Не падышлі гарадзенцам Руслан Белы і Андрэй Гідрэвіч. Яны ўжо маюць прапанову аб працаўладкаванні ў «Магілёве». Да канца гэтага тыдня павінен вырашацца далейшы лёс Дзмітрыя Дубеня, Юрыя Мельнікава і трох Андрэяў- Гржылеўскага, Маісеенкі, Гаўрылава. Нагадаем, што кантракты з «Нёманам» ужо падпісалі Андрэй Бузыроў, Юрый Чух, Андрэй Каршуноў. Аднак страты ў нашай камандзе значна больш адчувальныя - развіталіся з «Нёманам» Алег Малашкевіч, Аляксей Вярбіцкі, Алег Цераў. Пошукам новых клубаў займаюцца Павал Варывончык, Дарус Плiскаўкас і Антон Ашчаўлаў.

# «Азот» губляе шансы

**Такую выснову можна зрабіць пасля таго, як мотабалісты гарадзенскага «Азота» здолелі заваяваць усяго два ачкі з шасці магчымых у трох гасцявых сустрэчах чэмпіянату Беларусі.**

У пятніцу гарадзенцы буйна перамаглі (8:2) шостую каманду чэмпіянату - пінскую «Юнацтва». Шасцю галамі ў гэтай сустрэчы адзначыўся лепшы бамбардыр нашай каманды Анатоль Багданаў.

На наступны дзень іспыт у гарадзенцаў прымаў чэмпіён - пінскі «Аўтамабіліст», аснову складу якога складаюць мотабалісты нацыянальнай зборнай.

Тытулаваны супернік «Азота» толькі напрыканцы сустрэчы зняў пытанні наконт пераможцы, 4:2 - на карысць «Аўтамабіліста». У «Азота» вызначыліся Леанід Садкевіч і Анатоль Багданец. З 11-цю галамі Анатоль з'яўляецца лепшым снайперам гарадзенцаў у чэмпіянаце.

У нядзельнай сустрэчы з лунінскай «Нівай», паводле словаў галоўнага трэнера «Азота» Яўгена Кашкахі, «Азоту» было наканавана прайграць. Суддзі гульні зрабілі ўсё, каб захаваць мінімальную перавагу лунінцаў (1:0).

Наступную гульню чэмпіянату гарадзенцы правядуць ў Гродне з пінскім «Аўтамабілістам» 11 жніўня. Пачатак гульні - а 17 гадзіне.

Турнірную табліцу пасля дзесяці гульняў чэмпіянату з ачкамі ўзначальвае «Ніва» (Лунін). На другім месцы знаходзіцца «Аўтамабіліст» (Пінск) - 14 ачкоў (8 гульняў), далей ідзе «Зара» (Менск) - 10 (10), «Азот» (Гродна) - 7 (8), «Аўтамабіліст» (Наваполацк) - 5 (10), «Юнацтва» (Пінск) - 2 (8).

# Брава, Яніна Карольчык!

**Гарадзенка Яніна Карольчык заваявала першую залатую ўзнагароду для беларускай зборнай на VIII чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы, які адбываецца ў канадскім Эдмантане.**

Лідарка сезону ў штурханні ядра Яніна Карольчык тытул чэмпіёнкі планеты дадала да тытула алімпійскай чэмпіёнкі.

Да лепшай спробы ў кваліфікацыі 19,87 зямлячка дадала 74 сантыметры ў фінальнай серыі, што гарантавала ёй залатую ўзнагароду, бо ніводная з суперніцаў гарадзенкі не здолела пераўзысці яе лепшыя кваліфікацыйныя лічбы. Пераможны вынік Яніны Карольчык 20,61 з'яўляецца новым рэкордам нашай краіны ў штурханні ядра.



«Залатая» спроба Яніны Карольчык

Яшчэ адзін прадстаўнік Гарадзеншчыны Яўген Місюля ў спартыўнай хадзьбе на 20 кіламетраў быў зняты з дыстанцыі.

Сярэбранай узнагародай у сямібор'і адзначылася беларуска Наталля Сазановіч.

# Сяргей Кароза: «Гульню зрабіў суддзя»

**Чэмпіянат Беларусі, 15-ы тур**

**«Гомель» - «Нёман-Белкард» - 2:1 (Брошын 4 (са штрафнога), Барэль 39; Кавалёнак 9 (галавой))**

*- Гульню «зрабіў» галоўны суддзя, берасцеец Сяргей Шмолік, рэферы ФІФА,* - пракаментаваў ПАГОНІ вынік гульні старшыня футбольнага клубу «Нёман» Сяргей Кароза. - *Тое, што ён падсуджваў «Гомелю», не выклікае сумнення. Абодва галы былі забітыя нам пасля грубых памылак Шмоліка. Суддзя проста прыдумаў штрафны, пасля якога нам быў забіты першы гол. Галу Барэля наогул папярэднічаў фол у цэнтры поля супраць Кавалёнка. А гол Сяргея Давыдава на 74-й хвіліне!? Шмолік яго адмяніў, хаця ўсім на полі і на трыбунах было відаць, што суддзя памыліўся. Гэта пацвердзіў і відэапрагляд моманту. А былі сама менеі два моманты, калі Шмолік проста абавязаны быў даваць пенальці ў бок «Гомеля».*

Кіраўніцтва гарадзенцаў мела намер зафіксаваць і абскардзіць памылкі суддзяў у пратаколе гульні. Аднак у той час, як Сяргей Кароза праглядаў на відэа спрэчныя моманты сустрэчы, пратакол быў падпісаны адміністратарам «Нёмана», нягледзячы на тое, што ў абавязкі адміністратара подпіс пратаколу гульні ніколі не ўваходзіў. Адзінае, што кіраўніцтва клуба цяпер можа зрабіць, дык гэта напісаць скаргу на дзеянні Сяргея Шмоліка на імя галоўнага суддзі чэмпіяната Юрыя Савіцкага.

Як адзначыў Сяргей Кароза, значна ўзмацніў «Нёман» у справаздачнай гульні «блудны сын» Павал Бацюта. Менавіта з яго дакладнага паса нападнік Дзмітрый Кавалёнак забіў адзіны гол гарадзенцаў. Адзначыўся Дзіма і за дзве хвіліны да заканчэння гульні, калі за нецэнзурную лаянку быў выдвараны суддзёй з поля.

Дублёры гарадзенцаў з «Гомелем-2» згулялі больш паспяхова - 1:1. Голам у «Нёмана-2» адзначыўся Рабоцін.

Пасля 15-га тура ў чэмпіянаце наступіла двухтыднёвая паўза. Яна звязаная з таварыскімі гульнямі моладзевай зборнай. Гульню наступнага, 16-га тура «Нёман» правядзе на сваім полі 18-га жніўня з «Дынама» (Брэст). Падчас паўзы кіраўніцтва клуба не плануе якіх-кольвек замежных збораў. Плануецца, што за два тыдні ў «баявы стан» прыйдуць хворыя Дзмітрый Раўнейка і Юрый Маміда. А вось аб выздараўленні Віталя Тарашчыка, па словах Сяргея Карозы, гаварыць яшчэ рана.

**Табліца чэмпіянату**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Белшына | 15 | 11 | 2 | 2 | 24-9 | 35 |
| БАТЭ | 15 | 10 | 2 | 3 | 33-18 | 32 |
| Славія | 14 | 8 | 2 | 4 | 30-12 | 26 |
| **Нёман-Белкард** | **15** | **7** | **5** | **3** | **24-10** | **26** |
| Шахцёр | 15 | 7 | 5 | 3 | 23-14 | 26 |
| Тарпеда-МАЗ | 14 | 7 | 3 | 4 | 17-17 | 24 |
| Дынама-Мінск | 14 | 7 | 2 | 5 | 26-14 | 23 |
| Гомель | 15 | 7 | 2 | 6 | 15-13 | 23 |
| Днепр-Трансмаш | 15 | 7 | 2 | 6 | 23-23 | 23 |
| Дынама-Брэст | 15 | 6 | 1 | 8 | 17-22 | 19 |
| Лакаматыў-96 | 15 | 4 | 1 | 10 | 12-30 | 13 |
| Маладзечна-2000 | 15 | 3 | 3 | 9 | 12-32 | 12 |
| Ведрыч-97 | 14 | 2 | 1 | 11 | 10-28 | 7 |
| Нафтан | 15 | 1 | 1 | 13 | 7-31 | 4 |

# «Гродна-93» узмацнілася?

**У панядзелак з двухтыднёвага збора ў Стайках вярнуліся баскетбалісты «Гродна-93».**

Па вяртанні ў складзе нашай каманды ўжо не было расейскага цэнтравога Рамана Сафронава. У яго скончыўся тэрмін кантракту, працягваць які баскетбаліст не пажадаў. Такім чынам, з трыо расейцаў (Сяргей Жармухамедаў, Раман Сафронаў і Алег Квашчук), якія выступалі за «Гродна-93» у мінулым сезоне, застаўся ў Гродна толькі апошні. Затое гарадзенцы падпісалі кантракты з беларускім цэнтравым, які прайшоў школу штатаўскага універсітэцкага баскетболу Кірылам Місючэнка і літоўскім разыгрываючым Эльгеркусам Кавалюнасам. Подпісы на кантрактах з «Гродна-93» паставілі таксама маладыя Максім Цішанкоў, Спартак Паграбнёў і цэнтравы Пётр Сарасек.

На гэтым тыдні чакаецца прыезд з Амерыкі Кажанца і менчука Аляксандра Кучынскага. З імі кіраўніцтва «Гродна-93» таксама плануе правесці перамовы аб далейшым супрацоўніцтве. Іншых набранцаў, па словах галоўнага трэнера гарадзенцаў Аляксандра Барысава, у нашай камандзе не прадбачыцца.

У планах «Гродна-93» - таварыскія гульні 17-18 жніўня з нацыянальнай зборнай Беларусі. На 30-га жніўня ў Швецыі запланаваны чатырохдзённы міжнародны турнір і «Гродна - 93» мае намер узяць у ім удзел.

**Дзяніс Курчэўскі**

СУМЕЖЖА

# Азэрбайджан перайшоў на лацінку

**Другога жніўня азэрбайджанскі народ зрабіў істотны крок да Эўропы, перайшоўшы з кірыліцы на лацінскі алфабэт. Гэткім чынам закончылася 10-гадовая кампанія развітання з кірыліцай, уведзенай у канцы 30-х гадоў з мэтай збліжэньня з расейскай культурай.**

На працягу апошняга месяца ў краіне адбываецца замена шыльдаў, дарожных знакаў і улікных назваў пасьля таго, як прэзыдэнт Гейдар Аліеў выдаў дэкрэт аб пераводзе ад першага жніўня ўсяго афіцыйнага справаводзтва на лацінскі шрыфт. Доўгія стагодзьдзі азэрбайджанская мова ўжывала арабскі шрыфт, але неўзабаве пасьля далучэньня Азэрбайджану да СССР на пачатку 20-х гадоў арабскі шрыфт быў заменены на лацінку. Тая, першая лацінка мела за ўзор турэцкую лацінку, уведзеную неўзабаве перад тым таксама замест арабіцы. Аднак у канцы 30-х гадоў шляхі гэтых блізкіх цюркскіх моваў разышліся: азэрбайджанская мова, як і ўсе астатнія мовы тагачаснага СССР, была гвалтам пераведзеная на кірыліцу. Пасьля абвяшчэньня незалежнасьці ў 1991 годзе ў краіне пачаўся рух за пераход на лацінку, прычым прыхільнікаў гэтага руху можна было знайсьці ў самых розных колах азэрбайджанскага грамадзтва.

Зьмена шрыфту, на іхную думку, умацуе сувязі Азэрбайджану з Эўропай і спрычыніцца да мадэрнізацыі краіны. Яшчэ адна, менш афішаваная мэта рэформы - канчаткова вызваліцца з-пад расейскіх культурных уплываў. Аднак ня ўсе ў Азэрбайджане задаволеныя гэтымі радыкальнымі пераменамі. Найпрасьцей будзе школьнікам, якія вывучаюць лацінскі шрыфт ужо дзесяць гадоў. Цяжэй давядзецца тым, каму за 30 і хто атрымаў адукацыю за савецкім часам і можа чытаць на роднай мове толькі ў яе кірылічным варыянце. Найбольш занепакоеныя рэформай газэтныя выдаўцы, якія лічаць, што зьмены адбываюцца занадта хутка і гэта істотна адаб'ецца на газэтных накладах. Абсалютная большасьць чытачоў азэрбайджанскіх газэтаў - гэта ўжо немаладыя людзі, і шмат каму зь іх з прычыны шрыфту давядзецца адмовіцца ад сваіх чытацкіх звычак. Апрача таго, можа быць аслабленая і палітычная апазыцыя - бо менавіта газэты адыгрываюць важную ролю ў пашырэньні апазыцыйнай інфармацыі. Аднак сёньняшнія азэрбайджанскія падзеі не адзіныя і не ўнікальныя на постсавецкай прасторы. Гэткі самы пераход - з кірыліцы на лацінку - ужо адбыўся або адбываецца і ў іншых колішніх савецкіх рэспубліках, напрыклад, у Малдове або Ўзбэкістане. Ён пазначае сабою пачатак новай культурнай эпохі ў гісторыі народаў, у якіх палітычнае дамінаваньне Расеі мела істотны ўплыў на нацыянальную культуру. Вяртаньне да сябе бывае часам трагічна балючым.

**Сяргей Шупа, Беларуская служба Радыё Свабода**

КРЫМІНАЛ

# Пятнаццаць гадоў за забойства

**У Гродне завяршыўся судовы працэс па справе аб забойстве 10 сакавіка бягучага года ўрача Гарадзенскай абласной клінічнай бальніцы. Абвінавачваемай у забойстве, 18-гадовай жыхарцы вёскі Першаі Валожынскага раёна Мінскай вобласці Святлане Івашка, Гарадзенскі абласны суд вынес пакаранне ў выглядзе пазбаўленне волі - тэрмінам на 15 гадоў у калоніі строгага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.**

Забойства, пра якое раней паведамляла ПАГОНЯ, дзяўчына ажыццявіла ва ўласным гаражы ўрача пасля сумеснага ўжывання спіртных напояў. Яна некалькі разоў ударыла мужчыну па галаве бутэлькай, а пасля задушыла гальштукам. З гаража злачынца вынесла швейцарскі гадзіннік, партманэт, сотавы тэлефон, магнітолу, аўдыёкасеты.

На судзе Святлана Івашка патлумачыла свае дзеянні тым, што вымушана была абараняцца. Аднак суд палічыў гэтыя тлумачэнні не абгрунтаванымі і вырашыў, што яны супярэчаць доказам, атрыманым у ходзе следства. У выніку 18-гадовая дзяўчына была асуджана па тром артыкулам Крымінальнага кодэкса Беларусі, «насілле з мэтай завалодання маёмасцю з нанясеннем цяжкіх цялесных пашкоджанняў», «крадзеж афіцыйных дакументаў» і «наўмыснае забойства, спалучанае з разбоем».

**Павал Мажэйка**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 8.08.2001 г. Замова 2283 Наклад 7875

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей
Камп'ютарная вёрстка: Дзмітрый Какарэка

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013